УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«ГРОДЗЕНСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ УНІВЕРСІТЭТ
ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ»

**З. І. АХРЭМАВА, Т. У. СІДОРКА**

# ЛАГАПЕДЫЧНАЕ АБСЛЕДАВАННЕ ДЗЯЦЕЙ ДАШКОЛЬНАГА І МАЛОДШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ

Дапаможнік

Гродна
ГрДУ імя Я. Купалы
2013

УДК 376.4
ББК 74.57
А95

Рэкамендавана Саветам педагагічнага факультэта ГрДУ імя Я. Купалы.

Рэцэнзенты:
*Лапкоўская А. М.,* кандыдат філалагічных навук, дацэнт;
*Бірыч Г. В.,* начальнік аддзела сацыяльнай работы і прававой абароны дзяцінства Дзяржаўнай установы адукацыі «Гродзенскі абласны інстытут развіцця адукацыі».

**Ахрэмава, З. І.**

А95 Лагапедычнае абследаванне дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту : дапаможнік / З. І. Ахрэмава, Т. У. Сідорка. – Гродна : ГрДУ, 2013. – 49 с.
ISBN 978-985-515-699-5

Прадстаўлены апрабаваны вучэбна-метадычны матэрыял для лагапедычнага абследавання дзяцей дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту. Адрасаваны студэнтам спецыяльнасцей: «Алігафрэнапедагогіка», «Лагапедыя» пры праходжанні педагагічнай практыкі ва ўстановах адукацыі ў якасці настаўніка-лагапеда, выкладчыкам дысцыпліны «Лагапедыя», педагогам-дэфектолагам, практыкуючым лагапедам, метадыстам.

**УДК 376.4**
**ББК 74.57**



**ISBN 978-985-515-699-5**

# УВОДЗІНЫ

Праблема лагапедычнага абследавання дзяцей на беларускай мове актуальна ў сучаснай рабоце настаўніка-дэфектолага ў сувязі з тым, што ў Рэспубліцы Беларусь дзяржаўнымі мовамі з'яўляюцца руская і беларуская. У краіне ёсць шэраг школьных і дашкольных устаноў, у якіх навучанне і выхаванне вядзецца на беларускай мове. На існуючых пры гэтых установах пунктах карэкцыйна-педагагічнай дапамогі (ПКПД) настаўнікі-дэфектолагі таксама ажыццяўляюць сваю дзейнасць на беларускай мове.

Аўтары дапаможніка неаднаразова адзначалі цяжкасці маладых спецыялістаў-дэфектолагаў, якія былі абумоўлены недастатковай колькасцю адпаведнай метадычнай літаратуры, матэрыялаў для лагапедычнага абследавання дзяцей на беларускай мове. Гэта і навяло на роздум аб складанні такога дапаможніка.

Мэта дапаможніка – садзейнічаць арганізацыі абследавання дзяцей, размаўляючых на беларускай мове, пры запаўненні маўленчай карты і выбары напрамкаў карэкцыйнай работы.

Сярод прыведзеных у дапаможніку матэрыялаў, разам з некаторымі аўтарскімі, маюць месца дастаткова знаёмыя методыкі, запазычаныя з раду навучальных і навуковых крыніц, мадэрнізаваныя і апрабаваныя аўтарамі на вялікай колькасці абследуемых дзяцей.

Прафесіяналізм спецыяліста, працуючага з дзецьмі, залежыць ад яго магчымасцей ажыццяўляць дыягностыку адэкватнага ўзроўню развіцця тых ці іншых якасцей і стану асобы, вызначаць змест, формы, метады, прыёмы і сродкі работы па карэкцыі, будаваць стратэгію дапамогі, выяўляць скрытыя ад бацькоў і настаўнікаў інтэлектуальныя, фізічныя і духоўныя рэзервы падрастаючай асобы, яе асаблівасці, талент, дараванні, схільнасці, захапленні, неардынарнасць мыслення, матывы праяўленняў і памкненняў. Усё гэта будзе садзейнічаць узмацненню здароў'я і паспяховай сацыялізацыі дзіцяці ў навакольным асяроддзі.

У дапаможніку сабраны матэрыялы, неабходныя для рашэння вышэйадзначаных задач падрыхтоўкі педагога да работы з дзецьмі з парушэннямі маўлення.

Аўтары лічаць прыемным абавязкам сардэчна падзякаваць рэцэнзентам: Г. В. Бірыч, начальніку аддзела сацыяльнай работы і прававой абароны дзяцінства Гродзенскага абласнога інстытута развіцця адукацыі; А. М. Лапкоўскай, кандыдату філалагічных навук, дацэнту, дацэнту кафедры лінгвістычных дысцыплін і методык іх выкладання Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы за слушныя заўвагі і прапановы.

Пажаданні па ўдасканаленні дапаможніка, а таксама заказы на яго выданне аўтары з удзячнасцю прымуць па адрасе:

230023, Беларусь, г. Гродна, вул. Ажэшка, 22, ГрДУ імя Я. Купалы, педагагічны факультэт, e-mail: d2075@post.grsu.by.

# ПРАЦЭДУРА ЛАГАПЕДЫЧНАГА АБСЛЕДАВАННЯ

Дзеці з парушэннямі маўлення абследуюцца на медыка-псіхолага-педагагічных камісіях (МППК) у цэнтрах карэкцыйна-развіваючага навучання і развіцця і абавязкова ў прысутнасці аднаго з бацькоў. Асноўнай мэтай гэтага абследавання з'яўляецца выяўленне маўленчага парушэння, псіхафізічных і сацыяльных умоў развіцця асобы. Задача МППК – вырашыць пытанне пра накіраванне дзіцяці ва ўстанову, дзе яму будуць створаны ўмовы для навучання, выхавання і карэкцыі парушэння.

Нарматыўнымі дакументамі Рэспублікі Беларусь па аказанню карэкцыйнай дапамогі асобам з маўленчымі парушэннямі прадугледжана абследаванне іх настаўнікамі-дэфектолагамі ва ўстанове, дзе яны будуць атрымліваць карэкцыйную дапамогу. Абследаванне праводзіцца ў верасні, у пачатку навучальнага года. Разам з абследаваннем стану маўленчага развіцця дэфектолагу неабходна выявіць уяўленні дзіцяці пра наваколле, асаблівасці псіхафізічнага развіцця, стан агульнай і дробнай маторыкі і г. д. Гэтыя звесткі з'яўляюцца неабходнымі для дэфектолага пры распрацоўцы зместу карэкцыйнай работы.

Лагапедычнае абследаванне ўключае ў сябе тры асноўныя разделы:

1) дасканалае вывучанне ўмоў выхавання і дынамікі маўленчага і агульнага псіхічнага развіцця, якое праводзіцца на аснове гутаркі з бацькамі і аналізу дакументаў на дзіця;

2) лагапедычнае і псіхолага-педагагічнае абследаванне вербальнай і невербальнай дзейнасці дзіцяці;

3) аналіз усіх атрыманых дадзеных.

Затрымаем увагу на абследаванні псіхафізічнага развіцця і вербальнай дзейнасці дзіцяці.

Пачынаецца лагапедычнае абследаванне з вывучэння дакументацыі (заключэння МППК і медыцынскіх дакументаў) і гутаркі з бацькамі. Мэта такой гутаркі – выявіць наяўнасць захворванняў ці траўм, парушаўшых ход маўленчага развіцця, асаблівасцей давербальнага развіцця, аналіз умоў маўленчага асяродзя. Асаблівая ўвага надаецца высвятленню перадмаўленчых рэакцый дзіцяці, у тым ліку гулення, лепету, у якім узросце з'явіліся першыя словы, якія, іх колькасць у актыўным і пасіўным слоўніку. Важна выявіць калі з'явіліся сказы, а таксама асаблівасці маўлення ў сям'і, калі бацькі звярнулі ўвагу на недахопы ў развіцці маўлення дзіцяці; ці звярталіся да лагапедычнай дапамогай.

Наладзіць кантакт з дзіцём дапамагае прадуманая і мэтанакіраваная гутарка, якая дае магчымасць скласці ўяўленне дзіцяці пра сваю сям'ю, родных, сяброў, пра з'явы прыроды, наваколле і г. д.

## Прыкладныя пытанні да гутаркі

а) Пытанні пра дзіця і яго сям'ю.
- Як цябе завуць?
- Колькі табе гадоў?
- Колькі гадоў табе будзе праз два / тры гады?
- Калі ў цябе дзень нараджэння?
- Як завуць тваю маму?
- Як завуць твайго тату?
- Назаві членаў сям'і?
- Колькі чалавек у вашай сям'і?
- Дзе і кім працуюць твае бацькі (мама, тата)?

б) Пытанні на арыентацыю ў часе і прасторы.
- Дзе ты жывеш?
- У якім горадзе (пасёлку, вёсцы) ты жывеш?
- Колькі пакояў у вашай кватэры?
- Колькі паверхаў у вашым доме?
- На якім паверсе ты жывеш?
- Колькі паверхаў унізе, пад вашай кватэрай?
- Колькі паверхаў зверху, над вамі?
- Якія ты ведаеш поры года?
- Якая зараз пара года?
- Назаві летнія месяцы.
- Колькі месяцаў у годзе?
- Што такое суткі?
- Колькі гадзін у сутках?
- Колькі хвілін у адной гадзіне?

в) Пытанні на выяўленне кругагляду дзіцяці.
- Як называецца наша краіна?
- Якія ты ведаеш гарады?
- Якія святы адзначаюць у нашай краіне?
- Якіх жывёл ты ведаеш?
- Што яны ядуць?
- Якіх ты ведаеш птушак?
- Якія з іх адлятаюць на зіму?
- Куды яны адлятаюць на зіму?
- Якія застаюцца?
- Якую кнігу ты не так даўно чытаў?
- Што ты з яе запомніў?
- Які фільм ты не так даўно глядзеў?
- Чым ён табе спадабаўся?
- Што ты умееш рабіць?
- Ці падабаецца табе вучыцца ў школе?

г) Пытанні пра інтарэсы дзіцяці.
- Чым ты любіш займацца (чытаць, гуляць, глядзець перадачы па тэлевізары)?
- У якія гульні ты любіш гуляць?
- Якія цацкі ёсць у цябе дома?
- Якая цацка самая любімая?
- З кім ты любіш гуляць?
- Якія перадачы ты любіш глядзець па тэлебачынні?
- Ці дапамагаеш ты бацькам?

## Абследаванне пазнавальнай дзейнасці

***Абследаванне мыслення.*** Пры абследаванні мыслення неабходна выявіць стан аперацый мыслення (аналіз, сінтэз, параўнанне, абагульненне); разуменне сэнсу агульных паняццяў; прычынна-выніковых сувязей.

1. Абагульненне (гл. с. 14 – 17).
2. «Чацвёрты лішні» (гл. с. 18).
3. Класіфікацыя прадметаў па канкрэтнай практычнай сітуацыі (гл. с. 19).
4. Вызначэнне падабенства і адрознення (гл. с. 20).

***Абследаванне ўспрымання.*** Абследуючы ўспрыманне неабходна выявіць здольнасць дзіцяці ўспрымаць колер, форму, велічыню, уменне арыентавацца ў прасторы, часе (гл. с. 21– 26).

***Абследаванне памяці.*** Важна выявіць, які стан памяці з'яўляецца вядучым, ці ёсць магчымасць у дзіцяці выкарыстоўваць дапамогу пры запамінанні і прыпамінанні матэрыялу (гл. с. 27).

***Абследаванне зрокавай увагі.*** Недахоп *зрокавай* увагі адмоўна ўплывае на ўсю дзейнасць дзіцяці (с. 28). Дзеці з цяжкасцю пераключаюць увагу з аднаго аб'екта на другі. Узнікаюць цяжкасці пры неабходнасці пераразмеркавання ўвагі паміж некалькімі аб'ектамі ці відамі дзейнасці.

## Абследаванне маўлення

***Абследаванне стану артыкуляцыйнага апарату.*** Нават нязначныя адхіленні ў пабудове ці рухальнай функцыі артыкуляцыйнага апарату могуць затрымліваць фарміраване правільнага маўлення.

*а) Пабудова артыкуляцыйнага апарату.*

*Губы*: рухомасць, стан мышачнага тонусу, стан звязкі верхняй губы.

*Зубы*: стан зубнога рада (анамаліі, адкрыты пярэдні прыкус, адкрыты бакавы прыкус, прагенія, прагнатыя)

*Паднябенне*: наяўнасць анамаліі (расшчэліна цвёрдага паднябення, пасляаперацыйны шоў), асаблісці пабудовы (гатычнае паднябенне, нізкае або высокае паднябенне).

*Язык*: рухомасць, памер, асаблівасці пад'язычнай звязкі, структуры (геаграфічны язык), дзвіяцыя языка.

*Маленькі язычок*: наяўнасць яго, адсутнасць, скарочанасць, раздваенне.

*б) Артыкуляцыйная маторыка.*

1. Рухомасць губ.
Заданні:
- губы «трубачкай»,
- усміхнуцца, утрымаць усмешку,
- падняць верхнюю губу, каб былі бачны верхнія зубы,
- апусціць ніжнюю губу, каб былі бачны ніжнія зубы.

2. Рухомасць языка.
Заданні:
- язык «лапаткай» (шырокі),
- язык «джалам» (вузкі),
- язык «маятнік»,
- дастаць кончыкам языка нос, падбародак, пашчоўкаць языком.

3. Рухомасць ніжняй сківіцы.
Заданні:
- выцягнуць яе ўперад,
- адцягнуць назад,
- сціснуць,
- адкрыць рот, утрымаць яго адкрытым пад падлік.
4. Рухомасць мяккага нёба.
Заданні:
- шматразовае вымаўленне гука [а],
- выконваць дзеянні па інструкцыі і па перайманні.

*в) Стан мімічнай мускулатуры.*
Заданні:
- нахмурыць бровы,
- падняць бровы ўверх,
- зморшчыць лоб,
- закрыць правае (левае) вока,
- надуць шчокі,
- наяўнасць парэзу, асіметрыі.

*г) Дробная мускулатура пальцаў рук.*
Заданні:
- сціснуць і расціснуць пальцы ў кулак (5–7 разоў пад падлік),
- канцом вялікага пальца па чарзе дакрануцца да ўсіх астатніх пальцаў правай і левай рук,
- указальны і сярэдні пальцы бегаюць па стале,
- выцягнуць указальны палец і мезенец правай (левай) рук,
- падняць абедзве далоні, павярнуўшы іх да сябе з шырока расстаўленымі пальцамі,
- скласці пірамідку, мазаіку і г. д.

*д) Агульная маторыка.*
Заданні:
- прайсці з кута ў кут, размахваючы рукамі, спыніцца, стаць на наскі, прысесць,
- паскакаць на дзвюх нагах,
- рукі ўперад, назад, уверх, уніз (па паказу і па інструкцыі).

***Абследаванне стану фізічнага слыху.*** Вырашаючая роля для развіцця правільнага маўлення належыць паўнацэннаму слыху. Дзіця чуе дарослага і наследуе яго маўленне, тым самым вучыцца гаварыць. Слых мае вялікую ролю і для інтэлектуальнага развіцця: дзіця дзякуючы яму пазнае навакольнае асяроддзе, пазнае значэнне слоў. Слых дапамагае дзіцяці кантраляваць сваё маўленне і параўноўваць яго з маўленнем другіх. Абследуецца ўспрыманне дзіцём маўлення шэптам і звычайным голасам на адлегласці 6–7 м. Словы падбіраюцца з нізкай і высокай частотнасцю.

***Абследаванне фанематычнага слыху.*** Развіццё фанематычнага ўспрымання пачынаецца ў дзяцей з акустычнай дыферэнцыяцыі далёкіх па фанетычных прыметах гукаў. У працэсе дыферэнцыяцыі ўключаецца апора на артыкулемы – дзіця пачынае адчуваць органы артыкуляцыі і з гэтага моманту пачынаецца распазнаванне і адрозненне гукаў блізкіх па фанетычных прыметах.

1. Дыферэнцыяцыя складоў: «Паўтары за мною...»

| | | |
|---|---|---|
| та – да – та, | ла – ба – да, | со – чо – цо, |
| ба – па – ба, | шы – жы – шы, | чы – цы – сы, |
| ва – па – ва, | жа – за – жа, | дза – ча – джа, |
| га – ха – га, | зо – со – жо, | том – дом – том, |
| ма – па – ма, | ча – ца – ча, | кот – год – ход. |
| са – за – са, | ра – ла – ра, | |
| шы – сы – шы, | сы – цы – зы, | |

2. Здольнасць выдзяляць гук на фоне слова: «Плясні ў далоні, калі пачуеш дадзены гук...» (напрыклад, гук [с]: санкі, птушка, замок, кацяня, шуба, касцюм).
3. Здольнасць прыдумываць слова на зададзены гук: «Назаві слова, якое пачынаецца з гука...».

Дыферэнцыяцыя гукаў з груп свісцячых, шыпячых і санорных (выкарыстоўваецца для малодшых школьнікаў): па звонкасці і глухасці; па мяккасці і цвёрдасці: «Падымі сіні кружок на цвёрды гук і зялёны на мяккі: сала – сяло; сухары – Сярожа; сюрпрыз, сёння, сок, сыр, сініца».

Словы для дыферэнцыяцыі гукаў на слых:

**б – п:** палка – балка, боб – поп, біў – піў, пілоты – боты, берагі – пірагі;

**г – х:** голад – холад, хворы – горы, год – ход, хром – гром, халадзіна – гадавіна, хатка – градка хутчэй – гарачэй, карагод – параход;

**д – т:** дом – том, Толя – доля, дамы – тамы, тата – дата, дубы – тупы;

**дз – ц:** дзень – цень, Дзіма – Ціма, медзь – павець;

**дж – ч:** Джэк – чэк, хаджу – хачу, уджаліць – прычаліць;

**ж – ш:** шар – жар, Луша – лужа, шыта – жыта, шаль – жаль, вушы – вужы;

**з – с:** зуб – суп, каса – каза, заліць – саліць;

**с – ц:** селі – цэлі, сядзі – цадзі, ліса – лісіца, сок – цок;

**ц – ч:** суніка – сунічка, паліца – палічка;

**т – ц:** кот – коцік, мост – мосцік, рот – роцік, бот – боцік;

**с – ш:** міска – мішка, вас – ваш, вусы – вушы, нас – наш, каска – кашка;

**з – ж:** зара – жара, вязу – вяжу, разок – ражок, зяваць – жаваць;

**л – р:** лак – рак, юла – Юра, лоў – роў, Лука – рука, ліса – раса, голад – горад, маліна – Марына, лыжы – рыжы, валіць – варыць.

***Фанематычны аналіз і сінтэз.*** Развіццё фанематычнай сістэмы залежыць ад гукавога запасу дзіцяці. Засваенне гукаў знаходзіцца ў прамой залежнасці ад засваення слоўніка і граматычнага ладу маўлення. Для фарміравання паўнацэннага аналізу гукавога складу слова неабходна спачатку максімальна матэрыялізаваць і разгарнуць дзеянні з гукамі, наблізіць гэтыя дзеянні да матэрыяльных дзеянняў з прадметамі.

1. Вызначэнне наяўнасці гука ў слове: «Выбяры малюнкі, у назвах якіх ёсць гук» (гл. с. 30 –36).

2. Гукавы аналіз слова:

• Вызначэнне месца гука ў слове (пачатак, сярэдзіна, канец).

• Вызначэнне паслядоўнасці гукаў у слове.

• Вызначэнне колькасці гукаў у слове. Напрыклад: мак, дом, кот; мост, куст, танк; стол, стул.

• Вызначэнне даўжыні слоў: «Якое слова гучыць карацей (даўжэй): куст – стрэлка, шланг – нажніцы, кран – каструля, мак – машына?».

3. Гукавы сінтэз слова:

• Выдзеліць гук са слоў.

• Выдзяленне першага гука ў словах: Аня, Оля, Іра, дым, смак, трава, вада, булка.

• Выдзяленне апошняга гука ў словах: дом, ключ, мука, барабан, зубы, вецер, стол.

***Абследаванне гукавога маўлення.*** Выяўленне недахопаў вымаўлення гукаў патрабуе ўважлівасці, таму што ад гэтага залежыць выбар методык карэкцыі. Пры абследаванні трэба звярнуць увагу на характар парушэння гукавымаўлення зычных і галосных гукаў (замены, змяшчэнне, скажэнне, адсутнасць).

Абследуецца вымаўленне гукаў (гл. с. 29 – 35).

• у самастойным маўленні (у вершах, казках, адказах на пытанні);

• вымаўленне гукаў у словах: пачатак, сярэдзіна, канец, спалучэнне зычных;

• вымаўленне гука ў складах (адкрытых, закрытых, спалучэнне зычных);

• вымаўленне ізаляванага гука.

| | **Гук [с]** | **Гук [з]** |
|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 |
| **У складах** | *Адкрытыя:*<br>са – со – су – сы<br>*Закрытыя:*<br>ас – ос – ус – ыс<br>*Спалучэнне зычных:*<br>ста – сто – сту – сты<br>аст – ост – уст – ыст<br>ска – ско – ску – скы | *Адкрытыя:*<br>за – зо – зу – зы<br>*Спалучэнне зычных:*<br>зба – збо – збу – збы<br>зда – здо – зду – зды<br>зва – зво – зву – звы<br>зма – змо – зму – змы<br>зга – зго – згу – згы |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| **У складах** | аск – оск – уск – ыск<br>спа – спо – спу – спы<br>апс – опс – упс – ыпс | зна – зно – зну – зны<br>дза – дзо – дзу – дзы |
| **У словах** | Сад, сын, сок, сук, сом, соты.<br>Аса, вусы, пясок, бусы.<br>Нос, лес, матрос, калгас, Панас, колас, запас.<br>Паста, цеста, пастух, капуста, смачна, куст, гімнаст. | Зайчык, зуб, Зоя, замок, завод, запалкі.<br>Каза, фазан, козы, мімоза.<br>Звацъ, назва, знак, звон, званок. |
| **У сказах і тэкстах** | У садзе стаіць статуя.<br>На стуле сядзіць Соня<br>У Сані самакат. Самакат стаіць у садзе. | Зоя ставіць мімозу ў вазу.<br>Фазан ходзіць па газоне.<br>У Зоі каза. Зоя пасе казу. Вось зайчык.<br>Зайчык сядзіць пад кустом. Зоя заўважыла зайку. А зайчык не заўважыў Зою. |
| | **Гук [с']** | **Гук [з']** |
| **У складах** | *Адкрытыя:*<br>ся – сё – сю – сі<br>*Закрытыя:*<br>ась – ось – усь – ысь<br>*Спалучэнне зычных:*<br>сце – сцю – сці – сця | *Адкрытыя:*<br>зя – зё – зю – зі<br>*Закрытыя:*<br>азь – озь – узь – ызь<br>*Спалучэнне зычных:*<br>зня – знё – зню – зні |
| **У словах** | Сем, сіта, сіні, сетка, сена, Сіма.<br>Восень, усюды, гусяня, бусел.<br>Гусь, лось, таксі, рысь.<br>Сценка, слоік, весці, снег, святло, смех, госці, пасці. | Зіна, зіма, зязюля, зямля, зерне<br>Магазін, вазелін, бензіна, гузік, тазік.<br>Мазь, Кузя.<br>Змяя, звяно, звінець, узяць, вазьмі, Кузьма. |
| **У сказах і тэкстах** | Ася спіць. Усюды яснае неба. На асіне свісціць сіняя сойка.<br>Вася пасе гусей і гусянят. Гусі і гусяняты наеліся і спяць пад кустом. А Вася сочыць, ці няма дзе лісіцы. | Наступае зіма. Звініць мароз. Зіна ўзяла санкі і пабегла ў зімні сад. |
| | **Гук [ц]** | **Гук [ч]** |
| **У складах** | *Адкрытыя:*<br>Ца – цы – цу – цо<br>*Закрытыя:*<br>ац – оц – уц – ыц<br>*Спалучэнне зычных:*<br>сца – сцо – сцы | *Адкрытыя:*<br>ча – чо – чу – чы<br>*Закрытыя:*<br>ач – оч – уч – ыч<br>*Спалучэнне зычных:*<br>чна – чну – чны – чно |
| **У словах** | Цэп, цынк, цэх, цана, цацка, цэгла, цукерка, цыбуля, цапля, цымбалы.<br>Пятніца, яйцо, ланцуг, сонца, лесвіца, суніцы, мыльніца, курыца.<br>Бац, танец, канец, заяц, месяц, ранец.<br>Цвік, самацветы, боцман, сцяна | Чарот, чайка, чапля, часопіс, часнок, чырвоны.<br>Мячык, зайчык, абручык, пячэнне, шчэпкі.<br>Меч, ключ, абруч, завуч.<br>Тачка, мачта, начнік, качка, лавачка. |
| **У сказах і тэкстах** | На вуліцы распускаюцца гіяцынты і цыніі.<br>Куніца палюе на курыцу.<br>Заяц да зімы не рыхтуецца. Ён сядзіць пад кустом у снезе. Лісіцы, совы, рысі палююць на зайца. Заяц усіх баіцца. Заяц ратуецца бегам. | Чай у чайніку.<br>Дзве авечкі каля рэчкі. |

| 1 | 2 | 3 |
|---|---|---|
| | **Гук [ш]** | **Гук [ж]** |
| **У складах** | *Адкрытыя:*<br>Ша – шы – шу – шо<br>*Закрытыя:*<br>аш – ош – уш – ыш<br>*Спалучэнне зычных:*<br>мша – мшо – мшы – мшу | *Адкрытыя:*<br>жа – жо – жу – жы<br>*Закрытыя:*<br>аж – ож – уж – ыж<br>*Спалучэнне зычных*:<br>жна – жну – жны – жно |
| **У словах** | Шар, Шура, шалаш, шаблон, шык, шок, шуба, шакалад.<br>Вушы, мышы, пашана, кашуля.<br>Ландыш, капялюш, мыш, машына.<br>Імша, шпага, шафа, школа, кошка. | Жук, жаба, Жана, жыццё, жыхар.<br>Вожык, ланцужок, мяжа, сцюжа.<br>Смоўж, крыж.<br>Гражына, пружына, жнівень, жніво, жрэц, жнец, ажно. |
| **У сказах і тэкстах** | У Машы шапка-вушанка.<br>У шафе вісіць кашуля.<br>Міша шукае шарык.<br><br>Пятрушкі і Матрошкі<br>Ігралі на гармоніку.<br>А мышкі і кошкі<br>Шумелі ў доміку. | Жнівень багаты на ўраджай.<br>Гражына жала жыта.<br>На этажэрцы ляжаць часопісы.<br><br>Жарабя, рыжы хвосцік,<br>Пабег да вожыка ў госці.<br>Жыве ў лесе вожык. У вожыка вожыкі. Летам вожык і вожыкі сытыя. Яны ядуць мышэй, жаб, жукоў. Зімой няма яды для вожыкаў. Вожыкі спяць усю зіму. |
| | **Гук [р]** | **Гук [л]** |
| **У складах** | *Адкрытыя:*<br>Ра – ры – ру – ро<br>*Закрытыя:*<br>ар – ор – ур – ыр<br>*Спалучэнне зычных:*<br>мра – мро – мры – мру<br>кра – кро – кры – кру | *Адкрытыя:*<br>Ла – ло – лу – лы<br>*Закрытыя:*<br>ал – ол – ул – ыл<br>*Спалучэнне зычных*:<br>лна – лну – лны – лно<br>кла – кло – клу – клы |
| **У словах** | Рама, рак, рыба, рыжы, рука, рота, ружа.<br>Куры, пірат, керасіна, горад, гіры.<br>Пар, буквар, эскалатар, каляндар.<br>Трава, дровы, тры, трон, труба, матрос, марш, корм, дзірка. | Лава, лайка, лодка, ложак, лужына, лупа, лыжы, лыжка.<br>Мыла, піла, смала, аловак.<br>Бал, мул, пыл, авал.<br>Галка, пілка, халва, плуг, клык, хлыст, болт |
| **У сказах і тэкстах** | Рак і рыба – сябры.<br>Трупа падпісала кантракт.<br>Ружа расла ў агародзе.<br><br>Раман прыехаў у горад. Там вельмі прыгожа. Усюды растуць чырвоныя ружы. Многа транспарту: машыны, трамваі, тралейбусы. | Валодзя ловіць плотку.<br>Лодка плыве.<br>Ларысе мыла патрапіла ў вочы. |

## Абследаванне імпрэсіўнага маўлення

**а) Разуменне сказаў.**

1. Ясь стукнуў Міколку. (Хто задзіра?)
2. Рыгорку сустрэў Міхась. (Хто прыехаў?)

3. Паляўнічы ішоў за сабакаю. (Хто ішоў наперадзе?)
Інструкцыя: «Папраў сказ».
1. Каза прынесла сена дзяўчынцы.
2. Сяляне насыпалі мяхі ў бульбу.
3. Хлопчык шклом разбіў мяч.
4. Дуб вышэй за бярозу. (Пакажы які дуб, якая бяроза).

**б) Разуменне складаных канструкцый.**
1. Інструкцыя: «Выбяры правільны сказ».
Узышло сонца, таму што стала цёпла.
Стала цёпла, таму што ўзышло сонца.
Гракі прыляцелі, таму што прыйшла вясна.
Прыйшла вясна, таму што прыляцелі гракі.
2. Інструкцыя: «Якая фраза правільная».
Лета бывае вясной.
Вясна бывае перад летам.
3. Інструкцыя: «Папраў сказы».
Сонца асвятляецца зямлёй.
Вада жывіцца раслінай.
4. Інструкцыя: «Скончы сказ, ужываючы падпарадкавальную сувязь».

Птушкі адлятаюць у вырай, таму што ... (на дрэвах з'явілася зялёнае лісце; схаваліся вавёркі; пачаліся халады; пачалася навальніца).

Хлопчык захварэў, таму што ... (збіраў у лесе грыбы; ехаў у аўтобусе; залез на дрэва; доўга купаўся ў халодным возеры).

**в) Разуменне слоў, якія абазначаюць прадметы і прыметы прадметаў, дзеянні прадметаў.**
1. Разуменне слоў, якія абазначаюць прадметы і прыметы прадметаў, дзеянні прадметаў:
Пакажы вочы і г. д.
Пакажы, дзе чырвоны дах, блакітны шарык і г. д. (гл. с. 43).
Пакажы, дзе хлопчык палівае, налівае, пералівае і г. д. (гл. с. 42).
2. Выбраць прыметнікі, якія можна ўжываць з назоўнікамі ў дужках:
- карычневы, кары (вочы, касцюм, сукенка),
- гарачы, спякотны (лета, вада, прывітанне),
- густы, дрымучы (лес, туман),
- стары, пажылы (чалавек, падручнік),
- смуглы, цёмны (валасы, твар, неба).
3. Выбраць са слоў, прыведзеных у дужках, найбольш адпаведныя па сэнсу:

Раніцай на падворак прыляцела ... (зграя, зграйка, статак) вераб'ёў. Яны ўселіся на даху і весела ... (спявалі, шчабяталі, чырыкалі). Ніна ... (вышла, збегла) на ганак і насыпала на зямлю хлебных крошак. Вераб'і хутка ... (бегалі, хадзілі, скакалі) і ... (елі, глыталі, дзюбалі) крошкі. Раптам ... (прыбегла, прыпаўзла, падкралася) кошка. Яна ... (злавіла, узяла, схапіла) аднаго вераб'я і ўцякла.

**г) Разуменне інструкцый.**
1. Адчыні дзверы; пляснi ў далоні; пакажы, як прычэсваюцца; пастаў вазон на стол.
2. Пакажы 2 паслядоўна названых прадметы: аловак, ключ.
3. Пакажы алоўкам ключ.
4. Пакажы аловак ключом.

**д) Разуменне граматычных форм.**
1. Адзіночны і множны лік:
- назоўніка (певень – пеўні, кот – каты) (гл. с. 36, 41).
- дзеяслова (пяе – пяюць, шые – шыюць).
2. Памяншальна-ласкальная форма назоўніка (стул – стульчык) (гл. с. 48).

3. Дзеясловы закончанага і незакончанага трывання (малюе – намаляваў) (гл. с. 47).
4. Склонавыя формы (пакажы ручкаю сшытак, лінейкаю ручку і г. д.).

**е) Разуменне выразаў.**
Залатая галава, залатыя валасы, каменнае сэрца, стары сябар, глухая ноч.

**ж) Разуменне звязнага маўлення (гл. с. 38).**
Прачытаць тэкст. Затым прапанаваць дзіцяці разлажыць малюнкі на аснове прапанаванага апавядання.
Проста бабулька.
Па вуліцы ішлі хлопчык і дзяўчынка. А наперадзе ішла бабулька. Яна паслізнулася.
- Патрымай партфель, – крыкнуў хлопчык і кінуўся на дапамогу бабульцы.
Потым дзяўчынка запыталася:
- Гэта твая бабка?
- Не, – адказаў хлопчык.
- Мама?
- Не!
- Ну, цёця? Ці знаёмая?
- Ды не, зусім не! – усміхаючыся, сказаў хлопчык. – Гэта проста бабулька!

*Паводле В. Асеевай*

## Абследаванне экспрэсіўнага маўлення

***Абследаванне слоўнікавага запасу.*** У залежнасці ад развіцця дзіцяці прыёмы абследавання можна ўскладніць ці спрасціць. Слоўнік дзіцяці не заўсёды з’яўляецца дастатковым паказчыкам недаразвіцця маўлення.
1. Інструкцыя: «Я называю слова, а ты адказвай першым словам, якое прыйдзе ў галаву» (на адказ 3–5 секунд).
І варыянт: цацка, кашалёк, вясло, лямпа, бутэлька, кола, снег, канверт, самалёт, ключ, прыгажосць, сонейка, трамвай, лета, вайна.
ІІ варыянт: яблык, запалкі, страх, кубак, падарунак, мыш, званок, сумненне, цягнік, лякарства, газета, вагоны, брытва, захад, паравоз.
2. Інструкцыя: «Я буду называць слова, а ты падбірай другое, але з такім жа сэнсам»
Падбор сінонімаў: добры, гара, маленькі, цвёрды, смутак, знішчаць.
3. Падбяры малюнак па дзеянні: свеціць, стукае, барабаніць.
4. Назаві жывёлу, расліну, насякомае і г. д.
5. Абагульненне: «Назаві адным словам» (гл. с. 14 – 17).
6. Называнне прадметаў па іх апісанні: «Назаві прадмет, якім стрыгуць, забіваюць цвікі, пішуць на дошцы, малююць карціны і г. д.»
7. Называнне дзеянняў: рыба ... (плавае), самалёт ... (ляціць) і г. д.
8. Да якога прадмета падыходзіць дзеянне: плыве (...), шуміць (...), піша (...), шые (...), вісіць (...) і г. д.
9. Растлумач значэнне слоў: прас, халадзільнік, пыласос, эскалатар і г. д.
***Абследаванне складовай структуры слова.*** Часам, апрача парушэнняў у гукавымаўленні, у дзяцей назіраюцца асаблівыя цяжкасці ў вымаўленні многаскладовых слоў і слоў са спалучэннем зычных. Парушэнні складовай структуры слова часцей за ўсё выяўляюцца ў перастаноўцы, у пропуску або дабаўленні гукаў ці складоў.
1. Назваць словы са складаным складовым складам (веласіпедыст, страказа, парашутыст, экскаватар).
2. Паўтарыць словы: тэрмометр, міліцыянер, парыкмахер, акварыум.
***Абследаванне граматычнага строю маўлення.*** Выяўленне таго, як дзіця аперыруе складанымі сістэмамі граматычных выказванняў, уяўляе грунтоўнае звяно ў аналізе маўленчага недаразвіцця і займае адно з цэнтральных месцаў у працэсе абследавання. Памылкі пры выкананні задання характарызуюць узровень маўленчага развіцця дзіцяці.

1. Словазмяненне:
- дапасаванне прыметнікаў і лічэбнікаў да назоўнікаў (гл. с. 41, 43);
- выкарыстанне прыназоўнікаў (гл. с. 40, 42).
2. Словаўтварэнне:
- з дапамогай прыставак (гл. с. 40, 42, 47);
- з дапамогай суфіксаў (гл. с. 48);
- утварэнне прыметнікаў ад назоўнікаў (гл. с. 43);
- падбор слоў з супрацьлеглым значэннем (гл. с. 44, 45).

***Абследаванне правільнага ўжывання слоў***.

1. Назоўнікі (гл. с. 46).

*Назоўны, родны і вінавальны склон.* Вучні аб'ядноўваюцца па 2 чалавекі, кожнаму даецца па 3 малюнкі (мужчынскі, жаночы і сярэдні род). Інструкцыя: «Што намалявана ў цябе? Што ты бачыш у таварыша? Чаго ці каго ў цябе няма?»

*Родны, давальны, творны склон*. Інструкцыя: «Каму патрэбны гэтыя рэчы? Чым карыстаецца ў рабоце сталяр? Чаго няма ў сталяра?» (гл. с. 44).

*Творны, месны склон*. Інструкцыя: «З чым шклянка? Чай будзем піць з чым? Ваза з чым? Гарбузы ляжаць у чым? Цацкі вісяць на чым? Гальштук з чым?». Інструкцыя: «Дзе жыве? Дзе плавае?» (гл. с. 46).

1. Прыметнікі (гл. с. 43).
2. Дзеясловы (гл. с. 40, 42, 47).

***Абследаванне звязнага маўлення*** (гл. с. 38, 39). 1. Складанне сказаў і кароткіх апавяданняў. 2. Складанне апавяданняў па серыі малюнкаў. 3. Пераказ.

## Абследаванне стану чытання і пісьма

**1. Чытанне складоў.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| МА | ША | РА | РЫ | НА | ШО | ЛО | ВА |
| МУ | ШУ | ЛА | ЛЫ | НА | РО | СО | ВУ |
| МА | ЛУ | ЛА | МЫ | СЫ | МО | ЛО | ВА |
| МУ | РА | РУ | СУ | НЫ | НО | ХО | ВО |
| МУ | РА | ЛУ | СА | НУ | НО | ХА | ВО |

**2. Чытанне слоў.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| МАК | РАК | ЛУК | СУП | НОС |
| ЯМА | ЮЛА | ОСЫ | ВУШЫ | ВУЖЫ |
| РУКА | ПЯРО | САЖА | ЛУНА | ПІЛА |
| ШАЛАШ | ЗАВОД | САНКІ | ДЗЯЦЕЛ | ШЧЫПЦЫ |
| ПАТРУЛЬ | РАДАСЦЬ | ЧАСОПІС | СНЯЖОК | ВІДЭЛЕЦ |
| АРКА | ЮРТА | ЯЙКА | НАРА | АТРАД |
| МАЛАТОК | НАЖНІЦЫ | СКРЫПАЧ | ПРЫГОДА | АБРУС |

| | |
|---|---|
| ЧЫРВОНЫ | СКЛАДАНЫ |
| ШТАБ | СТАТАК |
| ШАХМАТЫСТ | МОМАНТ |
| ВЕЛАСІПЕДЫСТ | ФУТБАЛІСТ |
| ЭКРАНІЗАЦЫЯ | АКВАРЫУМ |
| МАЛАЦІЛКА | ФАНТАЗІЯ |

**3. Чытанне сказаў і тэкстаў.**

| | |
|---|---|
| **Раніца**<br>Выйшаў маленькі Ясь на двор. Весела там яму. Лёгка на сэрцы. Прыгравае сонца. Добра будзе гуляць на двары. Штось звініць у небе тоненькім галасочкам. Ясь прыслухаўся. Не відаць нікога. А ў небе разліваецца тоненькая песенка. Гэта песня жаваранка. | **Сінічка**<br>Снегу было няшмат. Мароз мацнеў. Коля пайшоў у сад. Раптам хлопчык убачыў над дрэвам птушачку. Гэта была сінічка. Яна ляжала нерухома. Колю стала шкада сінічку. Ён узяў яе і панёс у хату. Коля загарнуў сінічку ў анучку. Пад вечар яна ўжо бегала па хаце. |
| **Наша вёска**<br>Наша вёска вялікая. Каля вёскі цячэ рака. За ракой лес. У лес мы ходзім па грыбы. У рацэ ловім рыбу. | **Дома**<br>Тата чытаў газету. Мама гатавала ежу. Ясь маляваў ваўкоў. Марынка і Ніна гулялі ў лялькі. Коля рашаў прыклады. |

**4. Пісьмо:**

а) спісванне, б) напісанне слоў: вучню прапануюцца малюнкі з добра знаёмымі словамі розныя па складанасці (простыя, са збегам зычных, са складанай структурай), в) напісанне сказаў па малюнкам, г) пісьмо пад дыктоўку.

## Спіс выкарыстанай літаратуры


1. Зайцева, Л. А. Психолого-педагогическое обследование детей с нарушениями речи / Л. А. Зайцева. – Минск: НМЦентр, 1998. – 32 с.

2. Галиков, А. С. Психическое и физическое развитие ребенка от одного года до трех лет / А. С. Голиков. – М.: Аркти, 2000. – 64 с.

3. Филичева, Т. Б. Дидактический материал по исправлению недостатков речи у детей дошкольного возраста / Т. Б. Филичева, Г. А. Каше. – М.: Просвещение, 1990.

4. Шергилашвили, Ю. К. Обследование речевых нарушений у детей дошкольного возраста. Методические рекомендации / Ю. К. Шергилашвили. – Могилев, МГУ им. А. Кулешова, 2004. – 33 с.

**Інструкцыя: «Вызнач лішні прадмет (рэч). Як адным словам назваць астатнія прадметы?»**



## Інструкцыя: «Выбяры малюнкі з рэчамі ...»

для абеду








**Інструкцыя: «Пакажы маленькую, сярэднюю, вялікую фігуру»**



**Інструкцыя: «Што знаходзіцца ўверсе справа, уверсе злева, знізу справа, знізу злева, пасярэдзіне?»**











**Інструкцыя: «Запомні словы. А каб табе было лягчэй, падбяры да кожнага слова малюнак»:**

- *суп, вада, лес, ваза;*
- *святло, абед, лес, гульня, вучоба;*
- *малако, свята, ноч, летчык, спорт, конь.*



**«Чаго не хапае?» Інструкцыя: «Паглядзі ўважліва і скажы, што забыў намаляваць мастак?»**









**Інструкцыя: «Назаві, што намалявана»**

| | | | |
|---|---|---|---|
| [з] |  |  |  |
| [з'] |  |  |  |
| [с] | | | |

**Інструкцыя: «Разлажы малюнкі (што было спачатку, што потым) і складзі апавяданне»**



**Інструкцыя: «Назаві, дзе кот (сабака, мядзведзь, машына)»**







**Інструкцыя: «Што робіць дзяўчынка?»**







**Інструкцыя: «Назаві, што робіць хлопчык (машына)»**



Лист 38











**Інструкцыя: «Назаві, якога колеру ...»**





**Інструкцыя: «Назаві, як працуе майстар малатком (нажоўкай, рубанкам)»**









**Інструкцыя: «Скажы, якая дзяўчынка (хлопчык) злева, справа»**









**Інструкцыя: «Скажы, які чалавек (будынак, сабака) злева, справа»**











Інструкцыя: «Назаві, дзе жыве ...»



Інструкцыя: «Назаві дзіцяня ў качкі ...»



Інструкцыя: «Скажы, дзе стаяць ружы і г. д. ...»



**Інструкцыя: «Скажы, што ты бачыш на малюнках?»**



**Інструкцыя: «Калі шар зроблены з драўніны (пластмасы, металу, шкла), то ён які?»**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Драўляны шар | Шкляны шар | Пластмасавы шар | Металічны шар |
| Драўляны кубак | Шкляны кубак | Пластмасавы кубак | Металічны кубак |

# ЗМЕСТ



Вучэбнае выданне

**АХРЭМАВА** Зоя Іванаўна
**СІДОРКА** Тацццяна Уладзіміраўна

ЛАГАПЕДЫЧНАЕ АБСЛЕДАВАННЕ ДЗЯЦЕЙ
ДАШКОЛЬНАГА І МАЛОДШАГА ШКОЛЬНАГА ЎЗРОСТУ

Дапаможнік

Рэдактар *М. І. Гецэвіч*
Камп'ютарная вёрстка: *М. І. Верстак*
Дызайн вокладкі: *В. В. Канчуга*

Падпісана да друку 19.11.2013. Фармат 60×84/8.
Папера афсетная. Рызаграфія. Гарнітура Таймс.
Ум. друк. арк. 6,05. Ул.-выд. арк. 6,0. Тыраж 60 экз. Заказ .

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
Установа адукацыі «Гродзенскі дзяржаўны
ўніверсітэт імя Янкі Купалы».
ЛВ № 02330/0549484 ад 14.05.2009.
ЛП № 02330/0494172 ад 03.04.2009.

Завулак Тэлеграфны, 15а, 230023, Гродна.

ISBN 978-985-515-699-5

